facebookwkhpilnemxj7asaniu7vnjjbiltxjqhye3mhbshg7kx5tfyd.onion (2022-11-22)

# Facebook

---

ЧАМУ МЫ НЕ ПАСІЯНАРНЫЯ? НЕКАЛЬКІ ЭПІЗОДАЎ МІНУЛАГА: ВАСІЛЬ БЫКАЎ І КРЫСТАФ ГОЙБНЭР

Пацыфіста Крыстафа Гойбнэра (Christoph Heubner), які адмовіўся служыць у бундэсверы і адбываў свой канстытуцыйны абавязак на альтэрнатыўнай службе ў Оксфардзе ў прытулку для бяздомных, на працягу амаль 20 гадоў звязвала глыбокае сяброўства з Васілём Быкавым, які ў скупым наратыве акопнага франтавіка супаў ў адлюстраванні экзістэнцыйнага выбару беларуса, еўрапейца-хрысціяніна, у жорсткіх выпрабаваннях ваеннага лёсу з рэфлексіямі сына евангелічнага пастыра з Гесэну.

У нямецкай Вікіпедэі, дзе ёсць вялікі тэкст пра К. Гойбнэра як намесніка старшыні “Міжнароднага камітэта Асвенцім” і члена “Нямецкай дэлегацыі памяці Галакосту” (IHRA) , пра гэтае сяброўства напісана: Seit 1985 hat Heubner eine enge Verbindung nach Belarus und Freundschaft mit Wassil Bykau, dem belarussischen Schriftsteller. Es folgten zahlreiche gemeinsame Lesereisen und Veranstaltungen bis zu Bykaus Tod im Jahr 2003. (З 1985 Гойбнэр падтрымлівае цесныя стасункі з Беларуссю і сябруе з беларускім пісьменнікам Васілём Быкавым. Адбылося шмат сумесных літаратурных чытанняў і сустрэч, якія працягваліся да самай смерці Быкава 2003 г.).

Як члену грамадзкай рады “Таварыства Дружбы з замежнымі краінамі” мне пашчасціла быць перакладчыкам і сведкам першай сустрэчы Быкава з Гойбнэрам, калі ён разам са знакамітым пасіянарным заходнеберлінскім “патэрам Шарфам”, пацыфістам і кіраўніком місіі “Пакаянне на службе міру” (эмблема – руля гарматы, завязаная вузлом), наведаў Мінск.

Эвангелічнага біскупа Курта Шарфа ведала ўся раздзеленая Германія, калі ён у ранішніх царкоўных перадачах для моладзі разам з паэтам Гойбнэрам гаварыў: “Цярпіце, хутка мы ўсе будзем разам. ЦЯРПЕННЕ НАРАДЖАЕ НАДЗЕЮ …”

Потым былі яшчэ дзве сустрэчы ў Нямеччыне. Я схільны нават фантазаваць, што назва кнігі “Доўгая дарога дадому” нарадзілася не без уплыву назвы паэтычнага зборніка Крыстафа ”Пайсці да дому” (Nach Hause gehen”) і прыгодаў Васіля Уладзіміравіча ў Берліне. Гэта доўгая гісторыя.

У "Полымі" (не памятаю ні год, ні нумар) былі ўспаміны, па-мойму, Кудраўца, як яны з Васілём Быкавым і Крыстафам Гойбнэрам, праз нейкія шчэлкі, як кантрабандысты, прабіраліся з Заходняга Берліна ва Ўсходні ў сваю гасцініцу. Тады Быкаў як бы жартаваў пра цяжкую і доўгую дарогу дадому.

Вядома ж. з якога смецця нараджаюцца вершы. А назвы кніг і пагатоў ...

Крыстоф быў нетыповы немец: не трымаў эмацыйнай адлегласці, калі чалавек супадаў з ім у тэмпераменце і хуткасці розуму. Васіль Быкаў быў у публічных літаратурных дыскусіях, па маіх назіраннях, разважлівы і непаспешлівы, як бы нават лянівы ў сваіх меркаваннях, апранутых у вельмі простыя словы.

Каб пападаць у кадэнцыю некаторых гаваркіх нямецкіх слухачоў і мадэратараў, як перакладнік-талмач я часам спрабаваў на сустрэчах расквечваць сухаватага Быкава. Ён моршчыўся, пазней гаварыў: “Не трэба, гэта не маё”.

На адной з сустрэч (вялікая кнігарня ў Кілі, дзе меліся быць Тыдні беларускай культуры), на якіх прысутнічала навязлівая аспірантка-славістка, было закранута пытанне нацыянальнай спецыфікі салдацкіх пачуццяў у Барюбюса, Рэмарка і Арнольда Цвайга. Узгадвалася літаратурная гісторыя Цвайга “Спрэчка вакол Сяржанта Грышы” (Streit um den Sergeanten Grischa,1927), дзе лірычныя героі – нямецкія і расейскія салдаты заляглі ў акопах пад Баранавічамі.

Аспірарнтка нагадала, што Цвайг задумваў цэлую серыю пад назвай “Вялікая вайна белых мужчын”. Гэта я тады пачуў упершыню.

Крыстоф быў на гэтай сустрэчы і прымаў удзел у дыскусіі разам з Васілём Быкавым. Ён перш акрэсліў сваю іпастась: я – з Зямлі Гесэн, немец, еўрапеец, хрысціянін. Гэтая градацыя мне спадабалася.

Васіль Быкаў з лёгкай усмешкай сказаў, не ўзгадваючы свае ушацкія Бычкі, прыблізна так: ”Я – беларус, не зусім савецкі чалавек, веру ў Навышні розум, як усе добрыя людзі… "Мне гэта таксама спадабалася.

Як эвангеліст-пацыфіст Крыстоф Гойбнэр, разважаючы пра асаблівасці мастацкага адлюстравання нацыянальных архетыпаў, нівеляваў нацыянальны пачатак у характарах герояў ваенных наратываў і даводзіў, што вайна і для французаў, і для немцаў, і для славянаў – амаль па Ляву Талстому – “противное естеству человеческому состояние”. Так і сказаў на расейскай мове.

Васіль Быкаў дазволіў сабе зусім проста па-народнаму растлумачыць экзістэнцыйны стан выбару салдата ў акопе, калі на яго падаюць гарматныя снарады і параўнаць асобнага ваяра з нейкім архетыпам беларуса: толькі б застацца жывым! Беларусы стагоддзямі, заціснутыя на скрыжаванні дзялак большых суседзяў, традыцый і цывілізацый, -- што той гарох поры дарозе. Гібеюць, ліпеюць і загартоўваюцца, як ПРЫПУТНІК. Калі б былі пасіянарныя, загінулі б. А так: НАДЗЕЯ ПЕРАРАСТАЕ Ў ЧАКАННЕ. Далей нешта ў духу Гарэцкага пра лагодную меланхолію.

Гэтую фразу пра перарастанне жывой надзеі ў халоднае абыякавае чаканне я дакладна памятаю. Ці Быкаў вычытаў яе ў Альбэра Камю, якога ён любіў і , як мне здаецца, глыбока разумеў, ці нарадзіў сам экспромтам, я не ведаю. Тут праявіўся быкаўскі песімізм, які амаль пастаянна не пакідаў яго.